


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

2 лютага 2001 года
№ 5 (302)
Цана ў розніцу 110 рублёў

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### У цэнтры ўвагі – СШ №1

ВАЛОЖЫН. У кінатэатры "Юнацтва" і СШ №2 прайшла сустрэча з загадчыцай аддзела рэкламы і фестывальных праграм кінастудыі "Беларусьфільм" **Надзеяй Харашэвіч** і актрысай **Вольгай Водчыц**.

Былая выпускніца мясцовай СШ №1 прэзентавала фільм рэжысёра **Маргарыты Касымавай** "Зорка Венера" (В. Водчыц выконвала адну з галоўных роляў), які адкрываў тыдзень беларускай культуры ў Маскве. У ім гаворка ідзе пра моладзь: сяброўства, першае каханне, праблемы наркаманіі. Адпаведна і маладыя валожынцы не пакінулі глядзельныя залы пустымі, чаго даўно не было.

Н. Харашэвіч прыгадала, як 30 год таму адкрывалі кінатэатр "Юнацтва". А ў згаданым фільме здымаўся яшчэ адзін выпускнік СШ №1 – беларускі акцёр тэатра **Тадэвуш Кокштыс**.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Пажарныя з камп'ютэрам

МАЛАДЗЕЧНА. Мясцовы пажарны аварыйна–выратавальны атрад па выніках мінулага года стаў другім па сталічнай вобласці. Пажарным уручылі камп'ютэр, а камандзір атрада **Алег Шадыра** адзіны з вобласці атрымаў грамату Мінаблвыканкома.

Лепшай пажарнай аварыйна–выратавальнай часцю прызнаная Радашковіцкая. Яе камандзіру **Сяргею Філановічу** прысвоена званне маёра.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### ВНУ цікавяцца сваімі выпускнікамі

ВАЛОЖЫН. Горад наведалі рэктар лінгвістычнага універсітэта **Наталля Баранава** і прарэктар па вучэбнай рабоце **Паліна Бабіцкая**, а таксама рэктар педуніверсітэта **Леанід Ціханаў**.

Гаворка ішла пра замацаванне кадраў – у раёне нестае настаўнікаў замежных моваў, матэматыкі. Мяркуецца ўзмацніць кантроль за мэтавымі накіраваннямі на вучобу.

У гімназіі, дзе адкрыты ліцэйскі клас ад лінгвістычнага універсітэта, прайшоў фестываль замежных моваў. А ў Дорскай СШ адбыўся семінар маладых спецыялістаў. Госці засталіся задаволеныя сваімі былымі выпускнікамі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Фестываль "Маладзечна–2001"




Фота Міхаіла АСАЕВІЧА.

**У 1996 годзе маладзечанскі фестываль выглядаў так.**

МАЛАДЗЕЧНА. - Фестываль беларускай песні і паэзіі атрымлівае статус нацыянальнага, – гаворыць народны артыст Беларусі **Міхаіл Фінберг**.

Нагадаем, з–за фінансавых цяжкасцяў у апошнія гады маладзечанскі музычны форум не праводзіўся.

Мяркуецца, што сёлета фестываль прадоўжыцца тры дні. Конкурс маладых выканаўцаў упершыню будзе ацэньваць журы, члены якога збяруцца ў абласных тэлестудыях.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 3 лютага

**Мінск**
-6°C (уначы)
-1°C (удзень)



**Вільня**
-3°C (уначы)
-1°C (удзень)



Нядзеля, 4 лютага

**Мінск**
-5°C (уначы)
0°C (удзень)



**Вільня**
-1°C (уначы)
+1°C (удзень)



# Что нам стоит Дом построить?

МАЛАДЗЕЧНА. Амаль два тыдні ідуць работы на мясцовым даўгабудзе - будучым Доме культуры.

Ільвіную частку сродкаў на заканчэнне будоўлі (называецца лічба 5 мільярдаў рублёў) выдаткуюць гарадскі і абласны бюджэты. Тэрмін заканчэння будаўніцтва - апошнія месяцы 2001 года.

Заўчора планаваўся прыезд на будоўлю старшыні Мінаблвыканкома **Мікалая Дамашкевіча** (нават прыбралі смецце, што назапасілася за дзесятак год прастою), але візіт не адбыўся. Акурат у сераду з'явілася шыльда: цяпер любы можа даведацца, што генеральны падрадчык – ААТ "Будаўнік–169", указаныя прозвішчы і тэлефоны адказных асоб.

Да агульнай справы далучылі беспрацоўных. Рэспубліканскі фонд садзейнічання занятасці выдаткуе 50 мільёнаў рублёў на працягу года. Мэта – садзейнічаць працаўладкаванню беспрацоўных.

Намеснік дырэктара Маладзечанскага цэнтра занятасці **Таццяна Мучынская**:

– З ААТ "Будаўнік–169" мы заключылі дагавор на працаўладкаванне беспрацоўных. Яны будуць выкарыстоўвацца на работах, якія не патрабуюць спецыяльнай падрыхтоўкі: разборка сцен, засыпанне траншэй, прыбіранне памяшканняў і іншыя. Арыенціровачна ў праграме возьмуць удзел 32 беспрацоўныя. З бюджэтнага фонду ім будуць плаціць зарплату, купляць спецадзенне, неабходныя матэрыялы і інвентар, застануцца грошы і на падаткі. Каштарыс складзены на 2 месяцы. Сума – 21 мільён 40 тысяч рублёў. Дагавор уступае ў сілу з 1 лютага.

Атрымліваецца, з бюджэту на кожнага беспрацоўнага прыпадае роўна па 328750 рублёў (прыкладна па 263 долары ЗША). Кваліфікаваныя рабочыя таго ж "Будаўніка–169" атрымалі за снежань, у сярэднім, 70–80 тысяч рублёў.

Дырэктар цэнтра занятасці **Марыя Дамашкевіч**:

– 50 мільёнаў рублёў выдзелілі, каб аказаць дапамогу ў будаўніцтве Дома культуры. Гэта магчымасць беспрацоўным атрымаць работу і зарплату. Колькі людзей будзе працаваць, што яны будуць рабіць – гаварыць дачасна.

У аўторак на будоўлі працавала каля 20 рабочых і некалькі беспрацоўных, у тым ліку, адна дзяўчына, якая прыбірала вагончыка. Хаця яны толькі адпрацоўвалі 1 дзень у месяц для таго, каб атрымаць дапамогу па беспрацоўі.

Прараб **Анатоль Роліч** лічыць, што пры належным фінансаванні для таго, каб завяршыць будоўлю ў тэрмін, трэба выкарыстоўваць 200–250 чалавек.

З фінансаваннем могуць узнікнуць цяжкасці, бо напярэдадзе пасяўная, якая ўштогод выцягвае немалыя дзяржаўныя сродкі.

Што думаюць наконт карыснасці ДК самі рабочыя, чытайце ў апытанні на 2-й стар.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Яўгена СТАЛЬМАХА

**Калі пашанцуе, маладзечанцы змогуць абжыць свой Дом культуры яшчэ сёлета. Хаця б такое нам шчасце.**



### Імя віляйчанкі прагучыць у Парыжы

ВІЛЕЙКА. У беларускім этапе конкурсу паэтаў–школьнікаў, што праходзіць пад эгідай UNESCO, перамагла 7–класніца СШ №3 **Іра Голубева**. У ліку адзначаных таксама **КацЯ Варславан** і **Ілья Чайкоўскі** з той жа школы. Іхнія вершы будуць змешчаныя ў часопісе "Першацвет".

– Ірына Голубева, Беларусь, Вілейка! – прагучыць у Парыжы 21 сакавіка ў міжнародны дзень паэзіі.

**Наталля ВАЛЫНЕЦ.**

■ ГІСТОРЫЯ ШКОЛЫ



Фота з сямейнага альбома Міколы Кунавіча.

**Выпускнікі Іжанскай сярэдняй школы (другі выпуск, 1955 год) на школьным вечары сустрэчы. У цэнтры настаўнік Пётр Ключнік з жонкай.**

## Школьнікам забаранялася танцаваць

**У гэтыя дні ва ўсіх школах праходзяць сустрэчы выпускнікоў. Не будзе выключэннем і школа ў вёсцы Іжа на Вілейшчыне, якая сёлета адзначыць 50 год як стала сярэдняй. Былы яе выпускнік, а затым дырэктар Мікалай Кунавіч даслаў у рэдакцыю вытрымкі са школьных загадаў пачатку пяцідзесятых.**

**Загад №17 ад 18 красавіка 1953 года.**

За няўплату за навучанне за 2–е паўгоддзе ў суме 75 рублёў вучаніцу 8 "А" класа Кісель Г. выключыць са школы.

**Загад №19 ад 16 мая 1953 года.**

За дрэнныя адносіны да вучобы (2 гады сядзеў у 6–м класе), слабую паспяховасць, за дрэнныя паводзіны ў школе, грубасць з настаўнікамі вучню 7 кл. Гілю В.С. выдаць не пасведчанне аб заканчэнні школы, а даведку.

**Загад 3 №27 ад 30 снежня 1956 года.**

За зняважэнне настаўнікаў, парушэнне школьнага рэжыму, вучня 7–га класа Міхаіла Васільевіча Д. выключыць са школы тэрмінам на 1 год.

**Загад №1 ад 19 студзеня 1955 года.**

У апошні час некаторыя вучні школы наведваюць танцы, якія праводзяцца на рэлігійныя святы.

Загадваю

- забараніць вучням наведваць вячэрнія кінасеансы, танцы.

І гэта ў той час, калі за школьнай партай у 10–м класе сядзелі школьніцы, якім было па 22, 23 гады. Кісель Надзеі Міхайлаўне, напрыклад, 23 гады. Але слухаліся.

**Я законічыў гэтую строгую школу, а пасля і ўзначальваў яе на працягу чвэрці веку, таксама пісаў загады.**

**Мікола КУНАВІЧ,**
**в. Іжа Вілейскага раёна.**

### Экспрэс–апытанне маладзечанцаў

# Ці патрэбны Дом культуры?



**Мікалай Апяцёнак, мантажнік:**

– Яго патрэбна дабудаваць хаця б таму, што гурткі, секцыі, нарэшце, павылазяць з падвалаў. Калі заварушыцца будаўніцтва, невядома, залежыць ад фінансаў і зарплаты, бо асноўныя работы трэба выконваць уручную.



**Уладзімір Лінок, муляр:**

– ДК патрэбны, каб нечым было заняць моладзь. Хаця лепш было б, каб за справу ўзяўся прыватнік. Ён бы даўно ўсё дабудаваў, а то дзяржава пачне – закіне, таму невядома, калі гэта ўсё завяршыцца.



**Дзмітрый Габруковіч, брыгадзір бетоншчыкаў:**

– Не ведаю, ці акупіцца сродкі, што ўклалі і яшчэ ўкладуць у будаўніцтва ДК. Хаця, калі разабрацца, было б зручна і добра, калі б ДК увайшоў у эксплуатацыю.



**Ірына Ягела:**

– Калі грошы выдаткавалі, няхай будуюць. У мяне ўсё адно не папытаюцца: даць грошы, напрыклад, інвалідам ці пусціць на будаўніцтва.



**Дзмітрый Мельнікаў, цясляр–бетоншчык:**

– Даўно час прыспеў. Чаму ў Маладзечна не едуць артысты, як у Віцебск ці Магілёў? Ды і так моладзі будзе дзе збірацца.



**Генадзь Кезік, энергетык:**

– У любым выпадку, гэты бардак трэба прыбіраць: ці разбураць, ці дабудоўваць.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Юрый КАРПІЦКІ і Яўген СТЭЛЬМАХ.**

## У палітэхнікуме жаўтуха

**МАЛАДЗЕЧНА. У політэхнічным тэхнікуме зарэгістраванны выпадак заражэння гепатытам А. У выніку аб'яўлены каранцін да 21 лютага.**

Зрабіў гэта дырэктар **Мікалай Жгун** сваім загадам ад 19 студзеня. Выпадак адбыўся ў групе 23–БТ трэцяга курса. На тэрмін каранціну за групай замацавалі асобную аўдыторыю ў другім корпусе. Заняткі па фізвыхаванні праводзяцца на адкрытым паветры.

Сярод іншых мер - забарона на 2 месяцы ўдзелу навучэнцаў згаданай групы ў культурна–масавых мерапрыемствах; "кантактных" навучэнцаў, што адсутнічалі на занятках больш за тры дні, дапускаць да заняткаў будуць толькі з дазволу ўрача.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Гаваркія мядзельцы

**МЯДЗЕЛ. Любяць жыхары райцэнтра пагаварыць па тэлефоне: за месяц нагаворваюць на 5,5 мільёна рублёў.**

Максімум, што нагаварыў адзін абанент, – 63 тысячы. Наогул, жыхары раёна разлічваюцца за перагаворы добра. За апошнія гады судзіцца ні з кім, каб заплацілі за паслугі, не даводзілася. Абмяжоўваюцца адключэннем ці зняццем тэлефоннага нумара. Так паступілі з абанентам са Сватак, які завінаваціўся каля 90 тысяч.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Скаўты побач з піянерамі

**МЯДЗЕЛ. Разам са "звычайнымі" прабывальнікамі ў РПЛ "Зубраня" гасцюе і каля сотні беларускіх скаутаў.**

Яны многім адрозніваюцца ад іншых. І ўхваленне выказваюць не апладысментамі, а спецыяльнымі "крычалкамі", і малітвы чытаюць зранку і ўвечары.

Сябры асацыяцыі беларускіх скаутаў прыязджаюць на Нарач шосты год і звычайна зімой і ўлетку ладзяць свае летнікі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## "Спяваць можа кожны, калі захацець..."

**МАЛАДЗЕЧНА. У СШ №12 прайшла музычная сустрэча прадстаўнікоў дзіцячых арганізацый горада пад назвай "Спяваем разам з сябрамі". Бралі ўдзел піянеры з СШ №№1, 3, 9, гайды і скаўты.**

Старшакласнікі школы №12 гасцінна віталі прысутных музычнымі нумарамі, потым прадставілі "слова" гасцям. Гучалі песні, жарты, выконваліся танцавальныя нумары, былі пячэнне і варэнне. Напрыканцы сутрэчы лідэры кожнай маладзёжнай арганізацыі атрымалі дыпломы ўдзельнікаў і сувеніры на памяць.

**Наталля ХАРЫТОНАВА.**



Фота Валерыя ТРАЦЯКА.

**Андрэй Альшэўскі, Маша Храмцова і Аляксандр Карпенка (скаўты дружыны "Маладэчына"), удзельнікі музычнага свята "Спяваем разам з сябрамі".**

## Семінар вертыкальшчыкаў

**СМАРГОНЬ. Горад на мінулым тыдні сустракаў старшыняў выканкомаў, якія прыехалі ў Смаргонь з усёй Беларусі. Нагодай для візіту стаў семінар на тэму «Развіццё эканомікі раёна ва ўмовах розных формаў уласнасці і гаспадарання».**

Мерапрыемства прайшло ў рамках праграмы курсаў павышэння кваліфікацыі Інстытута вышэйшых кіруючых кадраў. Удзельнікі наведалі жыллёва–камунальную гаспадарку, завод аптычнага станкабудавання, канцэрн "Проінтэкс".

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## За ўклад у адраджэнне праваслаўя

**МЯДЗЕЛ. Трое жыхароў раёна ўзнагароджаныя памятным знакам "2000 год хрысціянства". Гэта Благачынны Мядзельскай акругі айцец Адам, Вольга Тарагінская з вёскі Слабада і Аляксандра Сінякова з Крывічоў.**

Апошняя бярэ актыўны ўдзел у жыцці мясцовай царквы, прыбірае храм. Гаворыць, што нічым асаблівым не вызначаецца – што можа, тое і робіць для царквы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## ПТВ–21 мяркуе ператварыцца ў ліцэй

**МАЛАДЗЕЧНА. З наступнага навучальнага года ПТВ–21, хутчэй за ўсё, стане ліцэем.**

У адміністрацыі вучылішча гавораць, што міністэрства адукацыі паставіла некалькі ўмоў, перш чым ПТВ зменіць назву: гэта стварэнне ліцэйскіх груп, адпаведнай матэрыяльнай базы і настаўніцкага саставу.

У гэтым навучальным годзе ліцэйская група ўжо ёсць, з 1 верасня плануецца ўвесці яшчэ дзве: па спецыяльнасцях "майстар аддзелачных работ" і "повар–кандытар". Адрозненне ліцэйскай групы ад звычайнай заключаецца ў большай колькасці вучэбных гадзін па агульнаадукацыйных і навучальных дысцыплінах (40 замест 35). Астатнія патрабаванні выканаены.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ДНІ

4 лютага – 255 год з дня нараджэння **А. Касцюшкі** (1746–1817), кіраўніка нацыянальна–вызваленчага паўстання 1794 г.

**5 лютага – выданне ў 1596 годзе ў Вільні "Грамматики словенской..." Л. Зізанія.**

**7 лютага – 120 год з дня нараджэння Р. Зямкевіча** (1881–1943), беларускага гісторыка літаратуры, перакладчыка.

**100 год з дня нараджэння В. Пола** (1901–1989), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі.

**90 год з дня нараджэння У. Ляўданскага** (1911–1973), беларускага пісьменніка.

**8 лютага – 115 год з дня нараджэння В. Дружчыца** (1886–1937), беларускага гісторыка.

**80 год з дня нараджэння І. Мележа** (1921–1976), народнага пісьменніка Беларусі.

■ ІМЯНІНЫ

**2 лютага**
Праваслаўныя: **Лаўрына, Яўсея, Яўціхія, Яфіма.**
Каталіцкія: **Марыі, Міраславы.**

**3 лютага**
Праваслаўныя: **Агніі, Анастаса, Валяр'яна, Максіма, Яўгена.**
Каталіцкія: **Блажэя, Гіпаліта.**

**4 лютага**
Праваслаўныя: **Анастасіі, Гаўрылы, Георгія, Івана, Лявона, Макара, Пятра, Цімафея.**
Каталіцкія: **Веранікі, Яна, Андрэя, Юзафа.**

**5 лютага**
Праваслаўныя: **Генадзя, Кліма, Клімента, Паўліна.**
Каталіцкія: **Агаты, Адэлаіды, Ізідара.**

**6 лютага**
Праваслаўныя: **Ксеніі, Агапа, Анастаса, Вавілы, Герасіма, Цімафея.**
Каталіцкія: **Дароты, Багдана, Паўла.**

**7 лютага**
Праваслаўныя: **Віталя, Майсея, Піліпа, Рыгора, Селівана.**
Каталіцкія: **Рамуальда, Рышарда, Тодара, Яна.**

**8 лютага**
Праваслаўныя: **Ананія, Аркадзя, Івана, Іосіфа, Пятра, Сямёна, Фёдара.**
Каталіцкія: **Гeроніма, Пятра, Яна.**

■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.

| Лятальны апарат | Судна з двух карпусоў | Жонка Адама | Падарунак | Частка тушы свінні | Козыт | 100 м² |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Вусце ракі | Падоўжаная дошчачка | Жаночае імя | Рыбалоўная сетка | 0,71 м | Вялікая статуя | Запаленне, хвароба |



# Паварушы мазгамі, №42

Чалом!

У прапанаванай у мінулым нумары фігуры налічвалася роўна 22 квадраты. На гэта правільна ўказалі **Віталь Бядрыцкі, Аляксей Грыгор'еў, Кірыл Ждан, Юрый Жыганаў, Таццяна Зянько, Андрэй Кавалёнак, Аксана Каўгарэня, Саша Кендыш, Юрый Малько, Вэша Машко, Юрый Машкоў, Уладзімір Пелюх, Косця Рылоў, Каця Северына, Ганна Шыцік, Юрый Юхневіч** з Маладзечна, віляйчане **Таццяна Абрамчук, Наталля Прушак, Гражына Станкевіч, Кацярына Яхімовіч, Бажэна Валынец** з п/а Хажова Маладзечанскага р-на, **Андрэй Васільчык** з в.Палесціна Астравецкага р-на.

Латарэя вызначыла шчасліўчыка. Гэта **Кірыл Ждан**. Прыз і дыплом чакаюць у рэдакцыі.

## Раскладанка «2001»

Падзялі фігуру на 12 чатырохклетачных частак так, каб у кожнй было па адной лічбе 2, па два нулі, па адной адзінцы.Парадак лічбаў не мае значэння. Удачы!

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 0 | 1 | 0 | 0 | 1 | 2 |
| 2 | 2 | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 0 | 2 | 1 | 2 | 1 | 0 |
| 2 | 0 | 0 | 1 | 0 | 0 |
| 1 | 2 | 0 | 0 | 2 | 0 |
| 0 | 1 | 2 | 0 | 0 | 1 |
| 0 | 1 | 0 | 2 | 0 | 1 |
| 0 | 0 | 2 | 0 | 0 | 2 |

**Напішы адказы на паштоўцы** і адпраў на адрас рэдакцыі. Падпішыся на паштоўцы. Адказы прымаюцца да серады ўключна. Сярод тых, хто знойдзе правільнае рашэнне галаваломцы, будзе разыграны прыз. Шчасліўчыку ўручым таксама дыплом. Не сярдуй, калі правільна адкажаш на заданне, а не знойдзеш прозвішча сярод прэтэндэнтаў на прыз. Проста ты даслаў рашэнне не на паштоўцы.



Якім ПЯРЭЧКА.

## Гараскоп 5 – 11 лютага



**Авен** (21.03–20.04)

З'явіцца шанц на ўдачу ў справах. Гэта датычыцца як практычнай, так і навуковай дзейнасці. Магчымыя станоўчыя зрухі ў матэрыяльным плане. У канцы тыдня – паездка.



**Цялец** (21.04–21.05)

Не прымайце ў гэты перыяд што–небудзь блізка да сэрца. Паспрабуйце забыцца на ўсе няўдачы і пабудзьце дзе–небудзь у вясковай цішыні.



**Блізняты** (22.05–21.06)

Пазбягайце "звілістых дарожак" у дасягненні сваіх мэтаў. Не варта на гэтым тыдні быць занадта шчырым з іншымі. У далейшым вас чакае выгадная прапанова.



**Рак** (22.06–23.07)

Трэба набрацца цярплівасці і пачакаць канца тыдня, калі можна будзе выліць усе свае эмоцыі. Паспрабуйце забыць зло і даравать таму, каму вы можаце.



**Леў** (24.07–23.08)

Пабольш увагі да блізкага, і ў вас усё атрымаецца. Будзьце вельмі ўважлівыя ў сваіх дзелавых сувязях. Магчымае павышэнне сацыяльнага статусу, а разам з ім – і больш поўны кашалёк.



**Дзева** (24.08–23.09)

Час адмовіцца ад сцвярджэнняў, што жыццё – гэта толькі праца і клопаты. Паспрабуйце хоць тыдзень пажыць па формуле "няхай хоць трава не расце".



**Шалі** (24.09–23.10)

Хаця б на тыдзень змяніце абстаноўку, лепш за ўсё, едзьце ў падарожжа, завядзіце новых знаёмых. Толькі не перастарайцеся, а то потым клопатаў будзе шмат.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

Тыдзень нечаканых адкрыццяў, прыемных і не вельмі. Будзьце ўважлівыя пры вырашэнні грашовых праблем. Лепш за ўсё, перакладзіце цяжар фінансавай адказнасці на іншых.



**Стралец** (23.11–21.12)

Тыдзень найбольш спрыяльны для рэалізацыі планаў, якія здаваліся неажыццяўляльнымі. Не бойцеся звяртацца па дапамогу да блізкіх.



**Казярог** (22.12–20.01)

Не трэба перабольшваць свае сілы і здольнасці. Час стаць рэалістам у сваіх планах, што ідуць вельмі далёка. Пабольш рэалізму, але і ў песімізм не ўпадайце.



**Вадалей** (21.01–19.02)

Трэба заняцца вырашэннем глабальных праблем з прыцэлам на будучыню. Звяртайцеся па дапамогу і параду да сваіх старых знаёмых.



**Рыбы** (20.02–20.03)

Менавіта на гэтым тыдні адзін з самых блізкіх вам людзей можа адыграць вызначальную ролю ў вырашэнні вашых фінансавых праблем.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №4**

**Па гарызанталях:** 2. Рай. 5. Апорт. 6. Хол. 7. Ром. 9. Салон. 11. Таран. 13. Атава. 14. Малпа. 15. Акорд. 17. Атара. 19. Секатар. 21. Капсула. 23. Кроль. 24. Анархія. 26. Кемпінг. 28. Ода. 29. Мяч.

**Па вертыкалях:** 1. Палон. 3. Паляна. 4. Атрута. 6. Халоп. 8. Марак. 9. Смала. 10. Кашалот. 12. Нарыс. 16. Песня. 18. Алень. 20. Аніс. 22. Абед. 25. Рада. 27. Пляж.

■ ПРОСТА АНЕКДОТ

Анекдот амаль з нашага жыцця. Мужык доўга не плаціць за газ. Адпаведныя службы дасылаюць яму ліст-папярэджанне. Абураны мужык піша ў адказ:

– Шаноўны дырэктар! Даводжу да ведама, што аднаго разу на месяц, калі я атрымліваю рахункі за кватэру, я складваю іх у стос, старанна перамешваю, выцягваю першыя тры і аплачваю іх. Калі вы дазволіце сабе адправіць мне хаця б яшчэ адзін допіс у падобным тоне, то рахункі вашай фірмы наогул будуць выключаныя з латарэі.



■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## У горадзе з'явіўся опій

**СМАРГОНЬ. Мясцовыя пінкертоны на вуліцы Савецкай затрымалі 22–гадовага жыхара Ашмянаў. Сярод асабістых рэчаў у яго знайшлі флакон з ацэтыліраваным опіем.**

Супраць беспрацоўнага ўзбудзілі крымінальную справу і ў кабінеце следчага ён расказвае, колькі каштуе опій для народа.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Студзень стаў ураджайным на фальшыўкі

**СМАРГОНЬ. Мінулы месяц аказаўся для мясцовага аддзялення ААБ "Беларусбанк" досыць ураджайны на фальшыўкі – зафіксаваныя два выпадкі збыту несапраўдных долараў ЗША.**

Спачатку жанчына мяняла 1–доларавую купюру, на якой да адзінкі быў прыклеены нуль. Затым у абменным пункце апынулася падробка ў 100 долараў ЗША. Па апошнім факце ўзбуджаная крымінальная справа.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Двайная смерць у кааператыўным гаражы

**МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак раніцай у гаражы 24–га кааператыва загінулі два чалавекі.**

30–гадовага мужчыну–прадпрымальніка і 22–гадовую дзяўчыну–прадаўца знайшлі ў машыне. Смерць наступіла ў выніку атручвання чадным газам ад працуючага рухавіка.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ПАМЕЖЖА

АСТРАВЕЦ. У раённым ДК памежнікі падвялі вынікі леташняй аператыўна–службовай дзейнасці. Камандзір Смаргонскага пагранатрада **Міхаіл Саладуха** даў высокую ацэнку і прывёў некаторыя лічбы.

Затрымана больш за 100 парушальнікаў мяжы, выяўлена 54 выпадкі кантрабанды, па якіх у даход краіны вернута 73288 рублёў, 12,5 тысячы долараў ЗША і 6 тысяч нямецкіх марак, а таксама буйныя партыі цукру і радыёдэталяў.

У атрадзе гэта лепшыя вынікі. Таму астравецкія памежнікі па праве другі год запар у лідэрах.

АШМЯНЫ. Напрыканцы мінулага года Ашмянская мытня аказалася без начальніка. **Аляксандра Пыжыка**, які кіраваў мытняй, прызначылі на пасаду намесніка начальніка Дзяржаўнага мытнага камітэта.

Нядаўна стала вядома, што месца начальніка мытні заняў **Руслан Малік**. Да новага прызначэння ён працаваў намеснікам начальніка мясцовай мытні.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ».
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж **8330 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
**№5 (302) 2.02.2001**. Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 1.02.2001

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** гасцініца "Вілія", капіравальны цэнтр "Парус". **Тэл. 55194, 55284.**
**Смаргонь:** Рэдакцыя "Новой газеты Сморгони", вул. Танкістаў, 8. **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя «РГ»